



# Рэгіянальная газета

26 ліпеня 2013 года
№ 30 (952)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**навіны рэгіёна**



## Забаранілі гандляваць свінінай

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 19 ліпеня на рынках Маладзечаншчыны не гандлююць сырой свінінай. Такое рашэнне прыняў Маладзечанскі райвыканкам, паведаміла дырэктар рынку райспажывтаварыства **Ганна Сіняўская**. Галоўны дзяржаўны ветэрынарны доктар Маладзечанскага раёна **Мікалай Малінец** запэўніў, што свіная чума да Маладзечанскага раёна пакуль не дайшла, але забаранілі гандляваць свіным мясам у мэтах прафілактыкі. Ганна Сіняўская дадала, што цяпер ні сала, ні сырых кілбас у продажы няма. Аднак кілбасны павільён не зачынены, там можна набыць перапрацаваныя прадукты: вараныя і вэнджаныя кілбасы, рулеты. Гандляваць свінінай забаранілі да асобага распараджэння райвыканкама.

## Адзначаць свята возера

**МЯДЗЕЛ.** На гарадскім пляжы ў райцэнтры ў суботу, 27 ліпеня, у 16 гадзін пачнецца абласное свята возера. Будуць працаваць пяць пляцовак: цэнтральная, "Дзіцячыя пацешкі", "Рыцарскі лагер", "Рамесны карагод", "Водная алімпіяда па-мядзельску". Выступяць аматарскія мастацкія калектывы, беларуская спявачка Вольга Плотнікава, па возеры будуць ездзіць акваБайкеры. Удзельнікі свята пабачаць валыншчыкаў і паўдзельнічаюць у майстар-класе па сярэднявечных танцах. Пройдуць спартыўныя спаборніцтвы, водна-пеннае шоу. Свае вырабы прадставяць народныя майстры з Мядзельшчыны і суседніх раёнаў, паведаміла выканальніца абавязкаў дырэктара раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра **Тамара Кардзяёнак**.

## У Ілі пройдзе свята вёскі

**ВІЛЕЙКА.** У пятніцу, 2 жніўня, пройдзе свята вёскі Ілья. Называецца яно "Мая родная Ілья, край прыгожы, гасцінны". Свае вырабы пакажуць народныя майстры з Вілейшчыны, з канцэртнымі нумарамі выступяць самадзейныя артысты з Ілі і бліжэйшых устаноў культуры. Пачатак свята запланаваны на 16 гадзін.

## Семінар па кіналогіі

**СМАРГОНЬ.** Ён праходзіць з 22 ліпеня па 2 жніўня. Ладзіцца на базе кіналагічнага цэнтра Смаргонскай памежнай групы ў рамках праекта "Павышэнне эфектыўнасці кіналагічных службаў пагранічных ведамстваў па праграме Еўрапейскага добрасуседства і партнёрскіх адносін паміж Латвіяй, Літвой і Беларуссю".

**Аддзел інфармацыі.**



# Пастаянная экспазіцыя – дзевяць гадоў працы

## У ліпені ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі адбылося адкрыццё экспазіцыі, што распавядае пра гісторыю краю і якую распрацоўвалі 9 гадоў

**СМАРГОНЬ. Заходжу ў музей, стаю, разглядваю карту Смаргоншчыны, што вісіць перад уваходам. Супрацоўнік музея заўважае маю зацікаўленасць і ўключае падсвятленне: адразу бачныя асноўныя помнікі гэтага краю.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Адна з аўтараў праекта экспазіцыі Святлага Чагадаева (злева) распавядае пра экспанаты.

Ну, праходзьце, – запрашае мяне адна з аўтараў праекта музейнай экспазіцыі **Святлана Чагадаева**. – Вось наш Крэўскі замак, і гэтая зала праз яго распавядае гісторыю феадальнай Смаргоні. Далей зала, дзе паказаная вытворчая дзейнасць і духоўная культура жыхароў краю. Трэцяя зала прысвечаная сусветным войнам, а чацвертая – нашым вядомым землякам.

У залах яшчэ пахне навізной, бо экспазіцыя запрацавала толькі 3 ліпеня.

– Будаўнікі сышлі некалькі дзён таму, а мы ўжо адкрыліся, – дадае спадарыня Святлана. – Калі пабачылі "чысты" варыянт, дзівіліся, як так хутка паспелі ўсё прыбраць і падрыхтаваць.

І сапраўды, усё быццам бы на сваіх месцах, быццам бы сто гадоў так і ляжыць. І выглядае экспазіцыя даволі проста: няма тут 7D-эфектаў ці яшчэ чаго-небудзь ультрасучаснага. Дзіву даешся, калі разумееш, што гэта экспазіцыя распрацоўвалася дзевяць гадоў і стала магчымай толькі дзякуючы вялікім намаганням усіх, каму яна была неабыякавая.

### Ад Батлейкі да сённяшняга дня

Канцэпцыя будаўніцтва і стварэння экспазіцыі пачынаецца на наступны дзень пасля стварэння музея, – тлумачыць галоўны захавальнік музея **Павел Картавік**.

Пасля заснавання ў 1984 годзе мы знаходзіліся ў будынку касцёла, некалі гэта было памяшканне кальвінскага збору. Наш музей быў музеем-тэатрам "Батлейка". Адпаведна, усе экспанаты збіраліся для таго, каб прадставіць гісторыю гэтага тэатра.

Канцэпцыю распрацавалі супрацоўнікі нашага музея разам з тэатральным музеем імя Бахрушына ў Маскве. Але яе не зацвердзілі ў Міністэрстве культуры.

Тады вырашылі замест музея-тэатра "Батлейка" зрабіць увогуле музей беларускага народнага тэатра. Старая канцэпцыя пайшла ў заняпад і трэба было распрацоўваць новую.

Аднак у 1989 годзе храм аддалі вернікам, мы страцілі будынак і пераехалі сюды (цяпер музей месціцца па вуліцы Кутузава, 23 – рэд.). Але гэта памяшканне не будавалася для музея. Раней тут былі абутковая фірма і крама.

Пасля пераезду ў 1992 годзе нам зноў змянілі профіль, і па сённяшні час музей носіць назву гісторыка-краязнаўчага. Ён распавядае гісторыю свайго краю. З 1992 года пачалася распрацоўка новай канцэпцыі.

Канчаткова канцэпцыю зацвердзілі ў 2004 годзе. Праз год унеслі некаторыя дапаўненні і пачалі непасрэдна над ёй працаваць.

Наша канцэпцыя мае некаторыя адметнасці. Мы вырашылі адмовіцца ад храналагічнай пабудовы экспазіцыі і рабіць яе па тэматычным прынцыпе. Гэта значыць, што гісторыя роднага краю распавядаецца праз гісторыю аднаго аб'екта.

Напрыклад, гісторыя феадальнага перыяду ў нас паказваецца праз гісторыю Крэўскага замка.

Для таго, каб пабудаваць экспазіцыю, аддзел культуры заключыў дамову з медыяартстудыяй горада Віцебска. Мастакі гэтай установы, якую тады ўзначальваў мастак Улазімір Іваноў, мелі вялікі досвед у будаўніцтве экспазіцый для музеяў.

Таму дамову аб пабудове нашай экспазіцыі заключылі менавіта з ёй.

**Настасся РОЎДА.**

**Працяг на 2-й старонцы.**

НЕЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# Жанчыну ўкусіў вожык

**МАЛАДЗЕЧНА. Незвычайнае здарэнне адбылося ў панядзелак вечарам, 15 ліпеня.**

– Жанчына каля дома знайшла вожыка і вырашыла яго пакарміць малачком, – кажа **Ігар Салагуб**, намеснік галоўнага доктара Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы па медыцынскай частцы. – Прынесла яго ў дом, узяла за лапку, а ён яе ўкусіў за палец. Жанчына сама справакавала вожыка на ўкус. Жывёла не вельмі любіць, каб яе турбавалі.

Жанчына звярнулася ў бальніцу 16 ліпеня. Цяпер ёй у мэтах прафілактыкі ад шаленства назначылі антырабічныя прышчэпкі. Такія прышчэпкі назначаюць людзям, калі іх укусіла дзікая жывёліна.




Будзьце асцярожныя: нават вожык можа ўкусіць.

Невядома, шалёны быў вожык ці не. Як толькі ён укусіў жанчыну, адразу ўцёк.

Увогуле, ад пяршага чэрвеня сёлета ад укусу жывёл пацярпеў 61 чалавек. Узрост іх розны: і дзеці пацярпелі, і дарослыя. Калі жывёла ўкусіла дзіця, то яго абавязкова трэба шпіталізаваць.

– Кусаюцца самыя розныя жывёлы: і дамашнія каты і сабакі, і бадзяжныя, – кажа памочнік доктара-эпідэміёлага Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Кацярына Гаранкова**. – Але выпадак з вожыкам – такога яшчэ не было.

За паўгода ў Маладзечанскім раёне зарэгістраваныя чатыры выпадкі шаленства. Людзі пацярпелі ад укусаў шалёных лісы, ката, дамашняга сабакі і бадзяжнага.

– Самым страшным укусам лічыцца ўкус за кісць рукі і твар, – працягвае спадарыня Кацярына. – Таму абавязкова трэба звяртацца па медыцынскую дапамогу і ні ў якім разе не адмаўляцца ад прышчэпак.

У парыве гневу нельга забіваць жывёліну. За ёй на працягу 10 сутак назірае ветэрынарная служба. Калі ёсць падазрэнне, што жывёла шалёная, тканкі яе адпраўляюць у Мінск на экспертызу.

Праз 30 дзён, калі вынік экспертызы на шаленства адмоўны, вакцынацыю пацярпеламу спыняюць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



МУЗЕЙ

# Пастаянная экспазіцыя – дзевяць гадоў працы

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

## Як стваралася экспазіцыя

Мы пачалі збіраць экспанаты, якія на нашу думку павінны былі быць у экспазіцыі. Большую частку нам перадавалі самі людзі, меншую частку здабывалі ў этнаграфічных экспедыцыях, штосьці дапамагала набываць дзяржава. Вельмі каштоўны экспанат Першай сусветнай вайны, арыгінальныя часопісы "Вялікая вайна ў вобразах і карцінках", які выходзіў у 1916-1917 гадах у друкарні Мамантава (Масква), набылі за кошт нашага Смаргонскага райвыканкама.

Цяпер мы не выставілі іх толькі таму, што пакуль не давезлі шкло, пад якое маглі б іх пакласці.

Першыя будаўнічыя працы былі праведзеныя ў 2008 годзе. Потым на два гады яны спыніліся, бо не хапала фінансавых сродкаў.

Аднак, калі **Аляксандра Вярсоцкага** перавялі з пасады намесніка старшыні Смаргонскага райвыканкама ў аблвыканкам на пасаду начальніка ўпраўлення культуры, ён, ведаючы нашу праблему, дапамог, і працы зрушыліся з мёртвай кропкі.

Дзяржава выдзеліла грошы і вялікія. Літаральна за 2012-2013 год усё было перароблена кардынальна. Калі не ўлічваць перапынкі, пабудова заняла каля года.

## Падзякі

Трэба падзякаваць усім, хто дапамагаў ствараць экспазіцыю. На жаль, аднаго з галоўных стваральнікаў экспазіцыі, былога дырэктара нашага музея **Марыі Майсевіч** не стала. Многія шмат зрабілі! Дзякуй **Надзеі Маркавай**, былому галоўнаму захавальніку фонду музея, **Святлане Чагадаевай**, навуковаму супрацоўніку.

Асноўны клопат па ажыццяўленні праекта экспазіцыі выпаў на новага дырэктара **Любоў Белуш**. Праз 2 месяцы будзе год, як яна працуе.

## Пасляслоўе

– Мы гэтую экспазіцыю распрацоўвалі ледзь не 10 гадоў таму, – кажа, развітваючыся, **Святлана Чагадаева**. – Канешне, з'явіліся новыя тэхналогіі, і магчыма, многія рэчы мы б цяпер зрабілі зусім па-іншаму. Людзі прыходзяць да нас. Тут ужо пабывала шмат настаўнікаў. Музей вельмі важны, бо калі распавядаеш на пальцах – гэта адно. А калі можна яшчэ і ўбачыць ці нават патрымаць у руках – зусім іншае. Я лічу, што нават невялікаму гарадку музей патрэбен. Трэба выхоўваць людзей. Як сказаў Амар Хаям: "Бо калі я гарэць не буду, бо калі ты гарэць не будзеш, то хто вакол развее цемру?"

**Настасся РОЎДА.**

РЭКЛАМА

# Шукай рэпетытара ўлетку

**Якая справа, такая і слава – кажуць у народзе. Кантактныя тэлефоны рэпетытара па матэматыцы Валерыя Фёдаравіча Каляснікава бацькі перадаюць адно аднаму, як чароўнае слова, якое, як "сім-сім", адкрывае дзверы ў любы ўніверсітэт.**

**Ён вучыць матэматыцы так, што пасля старэйшых у сям'і дзяцей да яго прыходзяць малодшыя, іх суседзі і аднакласнікі. 100% яго выхаванцаў паступаюць у намечаныя ВНУ. Прычым у прэстыжныя – БДУ, БНТУ, БДУіР, Акадэмію кіравання – і на бюджэтную форму, бясплатна. Да Валерыя Фёдаравіча едуць не толькі з Маладзечна, Краснага, Чысці, Турэц-Баяраў, але і з Вілейкі, Смаргоні, Валожына.**

***– Валеры Фёдаравіч, у чым асаблівасці вашага метаду падрыхтоўкі?***

Кожны вучань займаецца па індывідуальным плане ў залежнасці ад яго пачатковай падрыхтоўкі. Я бачу слабыя месцы школьніка, акцэнтую на іх увагу, ліквідуем прабелы і ідзём далей. Неабходна рашыць вялізную колькасць прыкладаў, ведаць тэарэтычны матэрыял для асэнсаванага прымянення яго на практыцы.

На кожных занятках я правяраю веданне тэорыі і выкананне дамашняга задання.

Заняткі доўжацца 80 хвілін і звычайна праходзяць двойчы на тыдзень. Калі вучань вельмі слабы, а бацькі ставяць высокія мэты, то займацца трэба тры разы на тыдзень і шмат працаваць дома.

***– Значыць, безнадзейна слабых школьнікаў не бывае?***

– Я бяру вучняў любога ўзроўню падрыхтоўкі, селекцыю не праводжу. Нікому не адмаўляў з-за дрэнных ведаў у пачатку нашага супрацоўніцтва. Адзіная ўмова – працаваць добрасумленна. І выпадкі, калі дзіця за тры месяцы з "чацвёрак" і "пяцёрак", якія яму ставілі ў школе, выходзіць на 8-9 балаў, нярэдкія.

***– А "дзесяткі" атрымоўваюць?***

– Атрымоўваюць. Прыходзяць у чэрвені вучні, у якіх па матэматыцы за год 6-8 балаў. Праз два-тры тыдні заняткаў пытаюся: "Першую чвэрць скончыш на 10?" Адказваюць: "У нас у школе не ставяць "дзясятак". У пачатку чацвертай чвэрці, нібы не ведаючы, пытаюся: "Якая ў цябе адзнака за трэцюю чвэрць?" Адказвае: "Дзесяць". "А за другую?" – "Дзясятка". І за першую "дзясятка". Аказваецца, ставяць у школах такую адзнаку.

***– У чым сакрэт Вашага поспеху?***

– Я супрацоўнічаю з лепшымі навучальнымі ўстановамі краіны. Цікаўлюся сучаснымі распрацоўкамі і падыходамі ў педагогіцы. Улічваю не толькі ўзровень падрыхтоўкі кожнага свайго выхаванца, але і іх здольнасці, асаблівасці характару.

Вынік залежыць не толькі ад маіх намаганняў. Сам вучань павінен ставіцца да заняткаў добрасумленна. У такім разе мне трэба дватры месяцы, каб павысіць паспяховасць на два-тры балы. Аднак, калі школьнік не працуе, то яму не дапаможа і куча прафесараў.

***– Вы працуеце толькі з выпускнікамі?***

– Не, я займаюся з вучнямі любога класа сярэдняй школы – ад 5 да 11. Але большасць бацькоў задумваецца толькі напярэдадні экзаменаў. Найбольш разумна паступаюць тыя, хто аб паспяховасці свайго дзіцяці і яго паступленні ў ВНУ думаюць загадзя, у 9-10 класах. Самы аптымальны варыянт – займацца два гады. У такім разе праблем не будзе – выпускнік атрымае трывалыя веды і добрыя адзнакі на экзаменах.

***– Навошта ўвогуле займацца з рэпетытарам?***

– Дзіця можа адставаць па матэматыцы з-за асаблівасцяў свайго характару, празмернага захаплення камп'ютарам, недастатковай увагі бацькоў – па розных прычынах. Акрамя таго, я на занятках вучу іх не толькі матэматыцы. Але і жыццю, рашучасці, упэўненасці ў сабе. А ўпэўненасць у сваіх сілах – гэта палова перамогі.



**Валеры Фёдаравіч Каляснікаў мае дзве вышэйшыя адукацыі, у тым ліку закончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Досвед работы рэпетытарам – больш за 30 гадоў.**

## Водгукі выхаванцаў і іх бацькоў

**Война Сяргей Канстанцінавіч:**

– У Валерыя Фёдаравіча займаліся трое маіх дзяцей. Старэйшы, Яўген, у гэтым годзе скончыў Гомельскі інстытут чыгуначнага транспарту. Сярэдні, Валянцін, скончыў 1-ы курс той самай навучальнай ўстановы. Малодшая, Віка, займаецца у Валерыя Фёдаравіча паўтара года: з 4-5 балаў па матэматыцы паднялася да 9-10. Хутка будзе паступаць.

Калі б Валерый Фёдаравіч быў дрэнным рэпетытарам, то ці займаліся б у яго ўсе мае дзеці?

**Надзея Рамаnоўская, маці студэнткі Акадэміі кіравання:**

– Тэлефон Валерыя Фёдаравіча мне падказала калега. Мая дачка Алеся займалася ў яго год. Пасля школы паступіла на спецыяльнасць "Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка". Пасля заняткаў у Валерыя Каляснікава, кажа яна, так лёгка вучыцца ва ўніверсітэце. Цяпер па вышэйшай матэматыцы Алеся мае "дзявятку". Валеры Фёдаравіч цудоўны выкладчык, патрабавальны, любіць дысцыпліну. І вынікі яго работы хутка даюць плён.

**Рамуальд Шыман, студэнт БНТУ, спецыяльнасць "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва":**

– Адзнакі па матэматыцы ў школе ў мяне былі ня дрэнныя, але цэнтралізаванае тэставанне – сур'ёзнае выпрабаванне, якое патрабуе сур'ёзнай падрыхтоўкі. Таму я звярнуўся да Валерыя Фёдаравіча Каляснікава – параілі маміны знаёмыя, дзеці якіх у яго таксама займаліся. У выніку ЦТ я здаў на 82-83 балы і паступіў на абраную спецыяльнасць.

**Таццяна Самаль, студэнтка БДУ, спецыяльнасць "актуарная матэматыка":**

– У Валерыя Фёдаравіча я займалася год – калі вучылася ў 11 класе. Менавіта да яго параілі звярнуцца маміны знаёмыя. Пасля 10 класа я мела па матэматыцы 8 балаў. Пасля 11-га – 10 балаў. Такая ж адзнака пайшла ў атэстат. Валеры Фёдаравіч дае высокі ўзровень ведаў. Мне ён дапамагаў рыхтавацца не толькі да тэставання, але і да алімпіяд па матэматыцы, у якіх я ўдзельнічала. Мы вывучалі тэмы не толькі са школьнай, але і з універсітэцкай праграмы.

**Таня Церлюкевіч. Красненская школа:**

– Я займалася ў Валерыя Фёдаравіча год. Ён добры рэпетытар, патрабавальны, падбірае матэрыял па ўзроўні ведаў. РТ-3 і ЦТ я здала на 92 балы. Жадаю ўсім такога рэпетытара.

**У ЧЫМ СІЛА?**
**У ВЕДАХ!**

Самая эфектыўная інвестыцыя – грошы, укладзеныя ў адукацыю. Калі Вы думаеце, што адукацыя – гэта дорага, паспрабуйце невуцтва.

**Падрыхтоўка да экзамену і цэнтралізаванага тэставання па матэматыцы. Работа з выпускнікамі і вучнямі сярэдніх класаў.**
**Кантактныя тэлефоны: 8-029-558-66-64, 8-029-632-50-77.**
**Валеры Фёдаравіч Каляснікаў.**
**ІП Каляснікаў В.Ф. УНП 690418425.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# У Маладзечне прадаюць лаванду... і не толькі




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Выпадкова суседзямі за прылаўкам сталі гандлярка лавандай Таццяна Мікалаеўна і школьніца Маша Прыткова. Дзяўчынка не толькі збірае лаванду і мяту, але і робіць з раслін духмяныя торбачкі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Лета прапануе нам самы шырокі выбар разнастайных траў і зёлак. Калі няма жадання вырошчваць і збіраць іх самастойна, а зеляніны ўсё ж хочацца, можна пайсці на рынак.**

Карэспандэнткі “РГ” знайшлі на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства больш за дзясятак найменняў зеляніны. Як жа ўжываць яе і якую карысць яна мае?

### Лета – час свежай зеляніны

Звычайна зеляніну ўжываюць у свежым выглядзе, толькі сарванай з градкі або набытай на рынку, ці сушанай – тады расліну выкарыстоўваюць ці цэлую, ці змолатую.

Часцей за ўсё гараджане ідуць на рынак, каб набыць найбольш папулярную зеляніну – зялёную цыбулю, салату, пятрушку ці кроп.

У сярэдзіне лета кошты на іх невысокія: пучок кропу абыдзецца ў тры тысячы рублёў, цыбулі – чатыры тысячы, салаты – тры.

Ёсць на рынку і не надта папулярныя для беларускай кухні расліны. Дарэчы, па кошце яны зусім не адрозніваюцца ад той жа пятрушкі, але могуць значна разнастаіць смак знаёмых страў.

Напрыклад, базілік ці любіста. Іх можна дадаваць у мясныя і рыбныя стравы, а таксама ў супы. Кожная надае свой асаблівы пах, які нагоніць апетыт. Самы шырокі выбар зеляніны мы пабачылі ў гандляра Уладзіміра.

– Маю зеляніну ўсю ахвотна бяруць – кажа ён. – Я вырошчваю яе на сваім агародзе ў Маладзечне і сабе, і на продаж.

На прылаўку спадара Уладзіміра ў слоіках стаяць меліса, мята, ісоп, мацярдушка (душыца). Слоік з фенхелем і курыльным чаем ужо пустыя – расліны раскупілі за раніцу.

### Непаўторныя стравы гатуем з дапамогай сушанай зеляніны

Розную зеляніну можна захоўваць цэлы год. Для гэтага яе трэба высушыць і здрабніць.

Сушаныя травы прадаюцца на маладзечанскім рынку на вагу. Тут вы знойдзеце і базілік, і маяран, і мацярдушку, і фенхель, і шмат іншых.

– Мы прадаём здробнены чабор па 10 тысяч рублёў за 100 грамаў, – гаворыць гандлярка на рынку.

Вядома, яго летам можна назбіраць і насушыць самім, у лесе чабору хапае. Але такія лянівыя, як я, набываюць яго ўжо ў гатовым выглядзе.

І сушаны, і свежы чабор дадаюць у гарбату. Сушаны, дапоўнены базілікам і мацярдушкай, стане добрай прыправай для рыбы ці піцы.

Сумесь зеляніны, з якой кожны можа эксперыментаваць самастойна, дапаможа гаспадыні дамагчыся таго, што любая страва будзе непаўторнай.

Да таго ж на рынку можна знайсці і лекавыя расліны. Пучкі засушанага сардэчніку (пустырнік) і рамонку прадаюць па пяць тысяч рублёў за пучок. З іх гатуюць лекавыя настойкі, а таксама дадаюць у чай.

### Прапаноўваюць самаробныя духмяныя торбачкі

Выкарыстоўваць расліны можна не толькі для ежы. За адным прылаўкам мы знайшлі гандлярку Таццяну Мікалаеўну, якая прапаноўвала пучкі лаванды па пяць тысяч рублёў за кожны.

– Яна расце на маім агародзе, вось я і прадаю, – тлумачыць жанчына. – Пучок добра пакласці ў лазню, у каго ёсць. Некаторыя кладуць у спальню, каб лягчэй і прыемней засыналася. Я ў чай дадаю, але такі чай хутчэй на аматара.

Побач свой тавар прапаноўвае школьніца **Маша Прыткова**. Яна збірае мяту і лаванду, сушыць іх. Шые невялічкія торбачкі, якія аздабляе вышыўкай ці ўзорам са стужачак, і кладзе туды расліны. Гаворыць, што рукадзеллю яе навучыла мама. Над адной торбачкай даводзіцца папрацаваць каля дзвюх гадзін, а за кожную дзяўчынка просіць па 13 тысяч рублёў.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Мы знайшлі наступныя расліны на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

### Кошты на рынку:

| Назва зеляніны | Кошт на рынку ў Маладзечне |
|---|---|
| Салата (пучок) | 3000 |
| Зялёная цыбуля (пучок) | 4000 |
| Пятрушка (пучок) | 3000 |
| Кроп (пучок) | 3000 |
| Базілік (пучок) | 3000 |
| Меліса (пучок) | 5000 |
| Мята (пучок) | 5000 |
| Мацярдушка (пучок) | 5000 |
| Ісоп (пучок) | 5000 |
| Кінза (пучок) | 3000 |
| Фенхель (пучок) | 3000 |
| Любіста (пучок) | 3000 |
| Лаванда (пучок) | 5000 |
| Сельдэрэй (пучок) | 2500 |
| Рамонак (пучок) | 5000 |
| Сардэчнік (пучок) | 5000 |
| Шчаўе (200 грамаў) | 4000 |
| Чабор (100 грамаў) | 10000 |
| Базілік сушаны (100 грамаў) | 5000 |
| Маяран (100 грамаў) | 7500 |
| Мацярдушка (100 грамаў) | 7500 |

| Курсы валют НБ РБ | 18.07 руб. | 25.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 860,00 | **8 850,00** |
| Еўра | 11 630,00 | **11 720,00** |
| Злоты | 2 733,68 | **2 785,47** |
| Літ | 3 374,15 | **3 393,47** |
| Расійскі рубель | 273,00 | **273,50** |
| Грыўня | 1 088,45 | **1 087,96** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8880/9040 | **8860/8970** |
| Еўра | 11630/11860 | **11710/11850** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.07 | 24.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 118300 | **118000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45400 | **45500** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 58000 | **-** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26000 | **25900** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 54200 | **34000** (курыны) |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **24000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28800 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9900 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 8900 | **8900** |
| **Алей** | 16300 | **14900** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **9700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **9000** |
| **Капуста**, 1 кг | 6000 | **4500** |
| **Морква**, 1 кг | 13000 | **13500** |
| **Буракі**, 1 кг | 7000 | **8000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **15500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 31000 | **24000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 11000 | **7500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 7000 | **5500** |
| **Перац**, 1 кг | 14000 | **12000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 28000 | **29000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | **12500** |
| **Грушы**, 1 кг | 22000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 52000 | **-** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 8000 | **5000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Разам з гасцямі “сышлі” долары, еўра і рублі



Фота telegraf.by.

Каб у вас не ўкралі грошы, захоўвайце іх у надзейным месцы.І самі будзьце пільныя.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кража адбылася ў нядзелю, 21 ліпеня, у доме па вуліцы Мядзельскай.**

У суботу гаспадыня, як звычайна, была дома. Муж яе працуе міжнародным дальнабойшчыкам, а сыны ўжо даўно дарослыя. Разам з імі жывуць свякроў і пляменніца.

Гаспадыня пачула жаночы голас. Выйшла на двор і ўбачыла сваю знаёмую.

Яны ведаюць адна адну прыкладна восем месяцаў. Гэтая знаёмая некалькі разоў прыходзіла да жанчыны ў госці.

– Але ў гэты дзень яна прыйшла не адна, – кажа намеснік начальніка трэцяга следчага аддзела палкоўнік юстыцыі **Віталь Радзюк**. – З ёй разам былі дачка з зяцем, якія толькі пажаніліся. Дарэчы, маладая пара была раней судзімая.

Госці прапанавалі адсвяткаваць вяселле маладых. Накупілі гасцінцаў і селі за стол. У жанчыны якраз была напаленая лазня, і яны па чарзе хадзілі мыцца.

Калі надышоў вечар, усе пайшлі спаць. Госці таксама засталіся начаваць.

Раніцай яны пахмяліліся, і тыя пайшлі дадому.

Пляменніца сабралася ісці ў краму. Жанчына ёй кажа: “Пачакай, зараз я табе грошай дам!”. Яна адкрыла капшалёк і ўбачыла, што грошай няма. А там было 200 тысяч беларускіх рублёў.

Жанчына спалохалася і вырашыла праверыць, ці ёсць астатнія грошы. Падышла да стала і з-пад абруса дастала ключ ад тумбачкі, у якой ляжалі грошы.

Грошы павінны былі ляжаць пад кавалкам шпалераў, але іх там не аказалася. Зніклі 1000 долараў і 300 еўра.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ВЫПАДКІ

## Прыйшоў папрасіць закурыць і забіў чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарылася забойства у панядзелак, 15 ліпеня, каля 23.00.**

– Мужчына прыйшоў да свайго знаёмага ў інтэрнат, яны раней жылі ў адным блоку, – кажа старшы следчы па асаблівa важных справах **Марына Рагінская**. – Папрасіў закурыць і што-небудзь паесці.

Той стаў выганяць яго, спрабаваў закрыць дзверы, але мужчына не даваў яму гэтага зрабіць і не хацеў адыходзіць ад дзвярэй.

Калі ў чарговы раз гаспадар закрываў дзверы і выганяў нечаканага госця, той ці штурхнуў яго, ці ўдарыў.

Мужчына ад гэтага ўпаў спіной на падлогу. Яго сужыцелька тэрмінова выклікала “хуткую дапамогу”, але было ўжо позна.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Сеў п’яны за руль – пяць гадоў пазбаўлення права кіравання

**МАЛАДЗЕЧНА. Другога чэрвеня 31-гадовы мужчына паўторна сеў п’яным за руль аўтамабіля “Мерседэс-Бэнц”.**

Аматар п’яным сесці за руль машыны летась ужо падвяргаўся адміністрацыйнаму спагнанню – штрафу ў памеры 30 базавых велічынь з пазбаўленнем права кіравання транспартнымі сродкамі на тры гады.

Аднак ніякіх высноў для сябе мужчына не зрабіў: не прайшло і года, як ён зноў у нецвярозым стане сеў за руль і быў спынены супрацоўнікамі ДАІ. У дачыненні да яго была распачатая крымінальная справа.

Мужчына віну сваю прызнаў, заявіў аб раскаянні, аднак сваe паводзіны растлумачыць ніяк не змог. Вынік – пяць гадоў пазбаўлення правоў кіроўцы і штраф у 30 мільёнаў рублёў.

Калі мужчына не выплаціць грошы, то ў лік штрафу ў яго канфіскуюць аўтамабіль.

Мужчына мае непаўналетняе дзіця. Працуе ахоўнікам. Раней не судзімы.

**Дзяніс ІВАНОЎСКІ, намеснік пракурора Маладзечанскага раёна.**



СЛУЖБА 101

## Рыбакі заўважылі пажар, але ўжо было позна

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Сурвілы Мядзельскага раёна 19 ліпеня адбыўся пажар.**

Што дом цалкам ахоплены агнём, убачылі рыбакі, якія раненька ішлі на рыбалку, – кажа інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Мядзельскага РАНС **Ігар Балаш**. – Усхваляваныя мужчыны адразу выклікалі выратавальнікаў.

Гэты дом летась гаспадар купіў пад дачу, а сам жыве ў мястэчку Свір. Ён прыязджаў сюды вельмі рэдка. Пераважна толькі для таго, каб рабіць рамонт.

Калі загарэўся дом, то ў ім нікога не было.

Папярэдняя прычына пажару – выбух кіслароднага балона.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Выгараў дом, дзе збіраліся шумныя кампаніі

**МЯДЗЕЛ. У чацвер, 18 ліпеня, у вёсцы Выгалавічы на Мядзельшчыне здарыўся пажар.**

Як паведамляе намеснік начальніка аддзела па дзяржаўным пажарным наглядзе Мядзельскага раёна, ад пажару ніхто не пацярпеў, але згарэў дах, выгаралі два пакоі і веранда.

У хаце жыве мужчына разам з сужыцелькай. Яны самі выявілі пажар і выбеглі на двор.

Па словах суседзяў, гэта пара часта выпівае і збірае ў доме шумныя кампаніі. Мужчына працуе трактарыстам у калгасе, а яго сужыцелька толькі і робіць, што ўстройвае гулянкі.

Прычына пажару высвятляецца. Адна з версій – падпал.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Выратавалі дзякуючы пажарнай лесвіцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 ліпеня ў адным з дзевяціпавярховых дамоў па Вялікім Гасцінцы здарыўся пажар.**

– Пра тое, што з балкона чацвертага паверха ідзе густы дым, выратавальнікам паведаміла жанчына, якая праходзіла міма, – кажа інжынер-інспектар дзяржпажнагляду раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Касцевіч**.

Жанчына ўбачыла дым, не разгубілася і тэрмінова выклікала пажарнікаў.

У кватэру, дзе пачаўся пажар, выратавальнікі змаглі зайсці толькі па пажарнай лесвіцы.

У прыхожай яны знайшлі 61-гадовага мужчыну. Яго выратавалі і адразу накіравалі ў рэанімацыю.

Агонь пашкодзіў мяккую мэблю і бялізну.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Згарэла машына

**МЯДЗЕЛ. Здарэнне адбылося ў чацвер, 18 ліпеня.**

Легкавы аўтамабіль належаў масласырзаводу, які знаходзіцца ў вёсцы Нарач (Кабыльнік).

– Гарэць машына пачала з-пад капота, – кажа намеснік начальніка аддзела па дзяржаўным пажарным наглядзе Мядзельскага раёна.

Папярэдняя прычына ўзгарання – няспраўнасць электраправодкі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Акцыя “Цвярозы кіроўца”

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 23 да 31 ліпеня ДАІ праводзіць акцыю “Цвярозы кіроўца”.**

Калі вы бачыце, што за рулём нецвярозы кіроўца, не заставайцеся ўбаку.

Як мага хутчэй паведамляйце аб гэтым па тэлефоне **102** альбо **77-16-56**. Магчыма, ваш званок дапаможа захаваць жыццё. І не адно.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, выканальнік абавязкаў начальніка маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# *Кіраўнік “Камунальніка”:* “Газета з акцыяй пасняшалася”

**МАЛАДЗЕЧНА. Такое меркаванне ў сваім інтэрв’ю выказаў дырэктар УП “Камунальнік” Мікалай Наздрын-Платніцкі, маючы на ўвазе публікацыі ў папярэдніх нумарах газеты, дзе ўзнімалася праблема дваровага праезду ад вуліцы Багдана Хмяльніцкага.**

– Прыкладна 900 мільёнаў рублёў закладзена ў бюджэце на 3-4 квартал сёлетняга года на абуладкаванне гэтай пешаходна-транспартнай сувязі. Мы аб’явілі тэндар, які павінен адбыцца 15 жніўня. Калі ніхто не заявіцца ні на гэты, ні на паўторны тэндар, то мы, атрымаўшы дазвол Мінэканомікі, будзем шукаць падрадчыка самі. У любым выпадку работы ўключаны ў план, сродкі выдзяляюцца і праезд будзе зроблены. Нармальнай арганізацыі аб’ёму там на два месяцы. Таму, я лічу, газета з акцыяй пасняшалася. Усё будзе зроблена.

**– Мікалай Пятровіч, а як вызначаюцца прыярытэты: якую вуліцу трэба рамантаваць?**

– Першы прыярытэт – гэта вуліцы, дзе праходзяць аўтобусныя маршруты. Так, напрыклад, сёлета былі часткова адрамантаваныя вул. Лясная, Шаранговіча, Ларына, Міру, Тамары Дудко, Крынічная па маршруце гарадскіх аўтобусаў, скрыжаванне на Лібава-Роменскай, іншыя. Толькі на ямачны рамонт было выдаткавана каля 680 мільёнаў рублёў. Работы праводзіліся нашым рамонтна-будаўнічым участкам.

Другое, мы звяртаем увагу на звароты грамадзян і рэагуем на іх.

Трэцяе. Двойчы на год праводзім агляды дарожнай сеткі і прымаем рашэнні, што падлягае рамонту. Але ж вы разумееце, што такое бюджэт. Гэта даходная частка і расходная. І расходы не могуць перавышаць даходаў. Калі нейкі прадпрымальнік схавае частку даходаў, каб не плаціць падаткі, ці тое ж дзяржаўнае прадпрыемства спрацуе не так добра, як планавалася, то за што рамантаваць вуліцы? Прытым, па сацыяльных стандартах у горадзе павінна быць не менш за 60% вуліц з асфальтавым пакрыццём. А іх у нас больш за 61 працэнт. Людзі ж усё адно хочуць асфальт!

**– То людзям трэба казаць праўду.**

– Праўда такая, што там, дзе не пакладзены асфальт, рэгулярна праводзім грэйдзіраванне. У мінулым годзе чыгунка нам аказала спонсарскую дапамогу і выдзеліла шчэбень, зняты з пуцей, якім мы засыпалі вуліцы прыватнага сектара.

**– Сярод тых вуліц, на якія найчасцей скардзяцца нашы чытачы, напрыклад, ёсць вуліца Меліярацыйная, Астрожскага.**

– Меліярацыйную мы грэйдзіруем, асфальту там, на жаль, не будзе. І гэта праўда. З Астрожскага сітуацыя больш складаная. Каб вуліца была добрай, трэба зрабіць адводы. Мы сёлета кінуліся зрабіць сваімі сіламі канаву ўздоўж праезнай часткі па Астрожскага, але там



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Ямачны рамонт на пуцеправодзе ў Маладзечне 24 ліпеня

столькі кабеляў, іншых камунікацый! І ўсё ж падтрымліваем яе ў праезным стане, хай сабе не такім, як на Вялікім Гасцінцы, рамантуем. Гэта мы робім і будзем рабіць.

**– Гараджане часам выказваюць апасенні, што пасля “Дажынак” многія камунальныя праблемы перастануць вырашацца.**

– Канешне, “Дажынкі” не проста дапамаглі заасфальтаваць шэраг вуліц, і заасфальтаваць па тэхналогіях і з матэрыяламі з вельмі высокай якасцю. Яны дапамаглі змяніць горад. Цэнтральная плошча і парк змяніліся абсалютна. Людзі там адпачываюць з задавальненнем.

Але не толькі “Дажынкі”, якія, безумоўна, зрабілі Маладзечна больш утульным і прыдатным да жыцця, вырашаюць будучыню. Вялікую ўвагу Маладзечну сталі ўдзяляць яшчэ з таго часу, як да кіраўніцтва горада прыйшоў **Мікалай Чурсін**. Тады і Палац культуры перастаў быць даўгабудам, а Маладзечна атрымала такі шыкоўны будынак, і 14-я школа з’явілася. Вы параўнайце горад, якім ён быў дваццаць, трыццаць гадоў таму і якім ён стаў цяпер. Ён стаў нашмат больш абуладкаваны, дагледжаны, прыдатны для жыцця. І тут не толькі “Дажынкі”. Гэта штогодняя пастаянная праца.

**– Калі параўноўваць Маладзечна з іншымі гарадамі, з Салігорскам, дапусцім, ці Барысавам. Што вы можаце сказаць?**

– Параўнанне з Салігорскам будзе абсалютна некарэктным, бо гораду, які будаваўся “з нуля”, усяго толькі 50 гадоў. А параўноўваць з Барысавам можна. І гэта параўнанне відавочна на карысць Маладзечна.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Даведка “РГ”:** Дарожная сетка Маладзечна складае 168 км, у тым ліку з асфальтавым пакрыццём – 108 км. На ўтрыманне дарожнай сеткі ў 2013 годзе выдзелена 4,0 млрд. руб. асвоена – 3,0 млрд. руб.

ЗІМОВЫ САД

## У Смаргоні растуць бананы, ананасы, грэйпфруты...

**СМАРГОНЬ. Сёлета зімоваму саду, які месціцца ў смаргонскім політэхнічным ліцэі, споўнілася 15 гадоў. За гэты час тут назбіралася больш за 1000 раслін.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Наведнікаў уражвае экзатычнасць раслін.

– Першыя расліны з’явіліся ў 1998 годзе, – распавядае аграном ліцэя **Вольга Калініна**. – Тады іх нам дапамог высадзіць Мінскі батанічны сад. Пачыналі нашу калекцыю недзе з 18 раслін. Ну а цяпер тут назбіралася больш за 1000 раслін каля 270 відаў.

У асноўным, у нас трапічныя і субтрапічныя расліны. З пладаносных ёсць фінікі, псідыум, альбо сунічнае дрэва (памер плода са сліву, колер вішні, а смак – як у лясной суніцы), інжыр, фейхоа, кава, ананасы, бананы, грэйпфруты. Усе яны ў нас даюць плады, але ў свой час.

**– Расліны ў вас зусім не зімовыя, чаму ж сад так называецца?**

– Сад наш называецца “зімовым”, бо зімой у нас цвіце нават больш раслін, чым летам.

**– Ці цяжка даглядаць за такой колькасцю раслін?**

– Адзінае, падчас спякоты цяжка, бо ў нас штодзень шчодры паліў і шмат вільгаці. Падняўшыся нават на паўтара метра вышэй, ужо няма чым дыхаць. У нас у даху шклопакеты, таму калі стаіць моцная спёка, некаторыя расліны нават абгараюць.

**– Вы ўсе плады свайго сада пакаштавалі? Наколькі ж яны адрозніваюцца ад тых, якія можна набыць у краме?**

– Напрыклад, лімоны ў нас пладаносныя круглы год. У іх у параўнанні з купленымі ў краме больш насычаны пах. Часта ў нашым садзе фатаграфуюцца падчас вяселляў. І калі саспелі грэйпфруты, маладым парам хацелася зрабіць кадр менавіта каля іх, а яшчэ і дакрануцца. Адначы адзін трэснуў. Пах тады ад яго быў на ўвесь сад! Да таго ж, наш грэйпфрут больш салодкі.

Увогуле, мы імкнёмся дзяліцца сваімі пладамі з наведнікамі. Напрыклад, калі гранаты саспяваюць, мы даём усім ахвотным пачаставацца. Гэтак жа дзелімся і пладамі манстэры. Мы не скупыя, – смяецца спадарыня Вольга.

**– А якія расліны больш за ўсё прываблiваюць наведнікаў?**

– Літаральна ўсе! Але калі цвітуць і пладаносяць. Калі спеюць ананасы, многія кажуць: “А мы думалі, што яны растуць на дрэвах!” А пра тое, што ананас – гэта травяністая расліна, нават і не ведаюць. Ну, і натуральна, што нашых людзей цікавіць тое, што расце не ў нас, а замежнікаў, наадварот, здзіўляюць мясцовыя расліны.

**Настасся РОЎДА.**

ГРАМАДЗЯНІН - УЛАДА

# Электронны ўрад: досвед Грузіі можа быць карысным Беларусі

**Атрымаць купчую на нерухомасць разам з рахункам за абед, зарэгістраваць фірму ўсяго за адзін дзень, не выходзячы з дому, – для беларуса – гэта мара, а ў Грузіі – рэальнасць.**

## Хабарнікі не вытрымалі канкурэнцыі

Раней грузіны месяцамі абівалі парогі розных міністэрстваў і ведамстваў, каб атрымаць дакументы на нерухомасць або зарэгістраваць бізнес. Плацілі хабар чыноўнікам за хуткае і станоўчае вырашэнне сваіх праблем. Але 1 чэрвеня 2004 года ў краіне было створанае Нацыянальнае агенцтва дзяржаўных рэгістраў (NAPR), якое занялося фарміраваннем электроннага ўрада.

Пачалі з самай праблемнай сферы: аказання паслуг па рэгістрацыі нерухомай маёмасці. Як адзначае начальнік IT-дэпартамента NAPR **Шата Чачхунашвілі**, раней для атрымання купчай на дом грамадзяніну прыходзілася марнаваць шмат нерваў і часу. Цяпер у звычайным рэжыме гэтая працэдура займае чатыры дні і каштуе каля 30 долараў. Калі кліент хоча паскорыць працэс да аднаго дня, прыйдзецца раскашэліцца прыкладна на 120 долараў.

– У 2005-2006 гадах, каб хутка і без праблем зарэгістраваць бізнес або аформіць здзелку куплі-продажу нерухомасці, даводзілася даваць хабар 100-120 долараў. Зараз за такія ж грошы можна ў паскораным парадку на законных падставах атрымаць адпаведныя дакументы ў NAPR. Даваць хабар ужо нявыгадна, – лічыць Шата Чачхунашвілі.

Цяпер агенцтва NAPR аказвае паслугі па рэгістрацыі нерухомай маёмасці, бізнесу, залогаў на рухомую маёмасць, арыштаў на маёмасць, якая вядзе ўлік кадастравых дадзеных аб нерухомай маёмасці.

Уся рэгістрацыйная сістэма арыентаваная на карыстальніка. Працэс максімальна спрошчаны. Для афармлення дакументаў у кліента ёсць некалькі зручных спосабаў.

Напрыклад, каб атрымаць купчую на нерухомасць або зарэгістраваць бізнес, можна прыйсці ў офіс NAPR. Агенцтва таксама аказвае паслугі ў офісах 16 найбуйнейшых банкаў, якія маюць больш за 100 філіялаў па ўсёй Грузіі, у 120 агенцтвах нерухомасці, 13 Дамах юстыцыі, якія ставіліся менавіта для аказання паслуг грамадзянам.

Для тых грамадзян, якія не маюць доступу да сеткі Інтэрнэт з дому або з працоўнага месца, на вуліцах грузінскіх гарадоў, а таксама ў банках устаноўленыя тэрміналы самаабслугоўвання NAPR.

## Афіцыянт, рахунак і купчую на дом!

Офісы агенцтва, іх банкаўскія прадстаўніцтвы і Дамы юстыцыі прымаюць больш за палову наведнікаў э-ўрада ў Грузіі. Аднак Шата Чачхунашвілі ўпэўнены, што будучыня за анлайн-кліентамі. Ужо зараз NAPR прапануе паслугі па рэгістрацыі бізнесу па Інтэрнэце. Праўда, для гэтага патрэбна ID-карта. На партале агенцтва неабходна запоўніць адпаведны бланк, заручыцца згодай ўладальніка памяшкання, дзе будзе юрыдычны адрас фірмы, і паставіць з дапамогай ID-карты электронны подпіс. Як толькі ўладальнік офіса па Інтэрнэце пацвердзіць згоду, фірма рэгіструецца ў рэестры, яе ўладальнік атрымлівае дакументы.

Але і гэта яшчэ не ўсё. У краіне адкрылася JUSTCafe, дзе разам з меню ўручаюць спіс адміністрацыйных працэдур, якія выконваюць у гэтай установе. Па заканчэнні абеду кліент можа атрымаць купчую на дом, пасведчанне аб рэгістрацыі бізнесу або любы іншы "замоўлены" дакумент.

## Грузіны атрымліваюць ID-карт-бланш

Па меры ўкаранення э-ўрада ў Грузіі ўсё большае значэнне набывае ID-карта. Гэта электроннае пасведчанне асобы, якое пакуль яшчэ не замяніла пашпарт (хоць у Турцыю па ID-карце грузінаў прапускаюць), але ўжо стала незаменным дакументам. Выдача ID-карт пачалася 1 жніўня 2011 года. Каштуе такое пасведчанне 20 долараў, сапраўднае на працягу пяці гадоў. Сярэдні заробак ў Грузіі прыкладна 340 долараў. Маламаёмасным грамадзянам ID-карты выдаюцца бясплатна.

З 2012 года ў Грузіі адкрыўся адзіны партал дзяржаўных паслуг – www.e-government.gov.ge. Выкарыстоўваючы ID-карту, можна атрымаць доступ да ўсіх дзяржаўных э-паслуг без пераходу на іншыя рэсурсы, што дасць магчымасць хутка выконваць працэдуры з маёмасцю, па сацыяльным абслугоўванні, рэгістрацыі і кіраванні бізнесам, аплаце камунальных плацяжоў, штрафаў і падаткаў.

Адметнай асаблівасцю грузінскага электроннага ўрада распрацоўшчыкі называюць яго празрыстасць і прастату. Да прыкладу, усе звесткі аб зарэгістраванай нерухомасці знаходзяцца ў адкрытым доступе. Праўда, пры жаданні ўласніка гэтая інфармацыя можа быць "засакрэчаная". Але, як падкрэслівае галоўны спецыяліст NAPR **Бату Гвасалія**, за час дзеяння агенцтва ад кліентаў пакуль не паступіла ніводнай просьбы схаваць інфармацыю.

Перш чым аўтаматызаваць сістэму, грузінскія ўлады істотна спрасцілі бізнес, наладзілі прыватна-дзяржаўнае партнёрства. Урад не пабаяўся даць права на выкананне адміністрацыйных працэдур прыватным натарыусам, агенцтвам нерухомасці, банкам. Па шэрагу пазіцый у рэйтынгу Сусветнага банка DoingBussiness-2013 Грузія – сусветны лідар. У сферы "рэгістрацыя маёмасці", якая паўсюдна лічыцца рухаючай сілай развіцця, э-ўрада і інфраструктуры, Грузія займае 1-е месца ў свеце. З дзяржбюджэту на гэтыя праекты грошы не выдаткоўваліся.

## Калі ў Беларусі створаць электронны ўрад для народа?

Пры стварэнні э-ўрада ў Грузіі прымерваліся на лепшыя напрацоўкі Швецыі, Германіі і Літвы. Удзел у ініцыятыве "Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю" дазваляе нашай краіне скарыстацца досведам не толькі заходніх краін, але і суседзяў па постсавецкай прасторы.

Нацыянальная праграма паскоранага развіцця паслуг у сферы інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій прадугледжвае, што да 2015 года электронны ўрад ужо павінен працаваць. Паводле даных статыстычнага зборніка ААН "Электронны ўрад Агляд 2012" Беларусь заняла 61 месца з 193 краін свету. Але пакуль рана казаць аб існуючым э-ўрадзе. Паводле ацэнак экспертаў ААН, электронныя паслугі ў нас даюцца на 22%.

– Мяркуючы па рэалізацыі падпраграм у галіне электронных паслуг, гаворка ідзе хутчэй аб інфарматызацыі, чым аб прадастаўленні паслуг грамадзянам або юрыдычным асобам – такія высновы акадэмічнага дырэктара Школы маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA **Дзмітрыя Маркушэўскага**.

Электронны дакументаабарот у Беларусі ўкаранёны толькі ўнутры ведамстваў. Але электронныя варыянты дакументаў, як прызнаўся адзін з чыноўнікаў падчас "круглага стала" "Лепшыя практыкі электроннага ўрада" ў рамках сумеснага беларуска-шведскага праекта "Падтрымка развіцця дадатковых функцый сістэмы кіравання нерухомасцю ў Беларусі", усё адно даводзіцца раздрукоўваць на паперы і несці на подпіс начальству.

Э-паслугі насельніцтву пакуль больш-менш актыўна падаюць толькі банкі і кадастравае агенцтва.

Па словах дацэнта Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта **Сяргея Шаўрова**, галоўная праблема ў тым, што ў Беларусі чыноўнікі разумеюць электронны ўрад як узаемадзеянне паміж дзяржаўнымі органамі. На самой справе яно павінна забяспечваць сувязь паміж грамадзянамі і дзяржаўнымі структурамі, і для гэтага патрабуецца папярэдняе рэфармаванне адміністрацыйнай сістэмы Беларусі.

**Мікалай ВІКТАРОВІЧ, "Заўтра тваёй краіны".**

# Нас было нямнога

## Успаміны Міхася Чарняўскага, якія ніколі не друкаваліся

*Працяг. Пачатак у №10, 17, 27.*

**МЯДЗЕЛ. 20 студзеня не стала Міхася Чарняўскага – гісторыка і археолага, аднаго з айцоў руху за незалежнасць.**

Ён адышоў без пары: яшчэ актыўна выкладаў ва ўніверсітэце, штолета праводзіў вялікія раскопкі. Анкалагічная хвароба, якую ён, здавалася, перамог, нечакана вярнулася. Прапануем ўспаміны гісторыка, запісаныя яго студэнтамі.

...На маім вяселлі ён стаў перад маёй жонкай на калені і сказаў: твой Міша такі патрыёт, я за яго на крыж пайду. Вось і пайшоў.

У яго здарыўся параліч ног, ён курыў, дык яго знайшлі абгарэлага: не змог дацягнуцца да клямкі...

Або ў нас у інтэрнаце: прыходзіць адзін з суседняга пакоя і прапануе навучыць, як рабіць выбухоўку. Я кажу: ведаеш, пакуль не трэба. Калі прыйдзе час, я да цябе падыду.

Потым адзін, скаціна, раптам загарэўся навучыць мяне друкаваць лістоўкі.

### Увесь час вось такое...

Лісты ўсе перачытваліся, пераглядаліся. Падслухоўвалася ўсё, і таму мы, калі збіраліся, то рабілі ўсякія дні нараджэння. Калі так проста сабраліся некалькі пакояў – гэта ўжо бралі на заметку. Шпіянаж быў, абсалютнейшая, татальнейшая сочка.

### Дзякуй Богу, не пісалі спісаў

Хтосьці прывёз з Украіны тоўсты рукапіс Івана Дзюбы "Інтэрнацыяналізм або русіфікацыя?", глыбокую навуковую працу аб русіфікацыі ў СССР. Яна пахадзіла па руках па ўсёй Беларусі. Усё было спакойна, пакуль не выйшла на Захадзе вялікім тыражом. Тады спахапіліся, сталі ўсе нітачкі хапаць, арыштавалі Дзюбу, ва Украіне паўсотні чалавек пасадзілі. Сотні чалавек цягалі на допыты, але па ўсёй Беларусі чалавек восем, можа дзесяць, выгналі з працы.

Мы чыталі расейскі самвыдат, але лічылі, што нам хапае сваёй работы, бо распыляцца яшчэ і на расейскую дэмакратыю – не было людзей на гэта. Нават калі чэхаславацкія падзеі былі, рашылі нічога не рабіць. У Маскве выйшлі, іх арыштавалі чалавек пяць, але мова руская не паменшылася ад гэтага. А нам нельга было падстаўляцца.

Нас было нямнога. Асяродак быў рассыпаны. Вось нейкая групка, чалавек пяць. Недзе побач – другая. І адзін-два чалавекі з гэтай групкі былі ў той, першай. І так далей.

Было ў нас на філалогіі некалькі чалавек, у Інстытуце літаратуры, у "Энцыклапедыі", у педінстытуце, у ВІРТУ (ваенным вучылішчы, якое ў 1968 годзе пераўтвораць у ВІЗРУ, а ў незалежнай Беларусі яно стане асновай Вайсковай акадэміі), у Інстытуце геалогіі, у Віцебску ў тэатры група была, у Гродне...

І дзякуй Богу – мы не пісалі ніякіх спісаў, не пакінулі ніводнай паперкі. Нас калі выганялі з працы, дык за нейкія рэчы, рэчы-доказы: напрыклад, Міколу Прашковіча – за ліст, мяне – за пераклад рукапіса Дзюбы "Нацыяналізм ці русіфікацыя...".

### Шызафрэнік і фанатык

Нас вінавацілі ў тым, што мы выступалі супраць лініі партыі ў нацыянальным пытанні. А лінія была – адзіны савецкі народ.

А адзіны савецкі народ і на мове павінны размаўляць адзінай. Не па-чукоцку ж ён будзе размаўляць, вялікі савецкі народ... Гэтак казалі мне ў КГБ.

А я кажу: вы разумееце, у Інданэзіі каля сотні розных моў, там розныя-розныя нацыянальнасці, найбольшая – яванская, іх там недзе яванцаў працэнтаў 70, а дзяржаўнай мовай яны выбралі мову самага маленькага народа, каб не было нікому крыўдна.

Чаму, я кажу, не выбраць чукоцкую мову для Савецкага Саюза?

Вы – шызафрэнік, кажуць. Чукоцкай, па-мойму, я іх дабіў. Брэжнеў выступае на палітбюро на чукоцкай мове...

Мне жонка перад допытам усунула нейкія таблеткі, каб я трымаўся, можа, банальны цытрамон, і я так завёўся, што гаварыў паўдня з імі.

Ну і нагаварыў. Не трэба балбатаць. Гэта мне была вялікая навука. Нават панёс на Караткевіча.

Яны страшэнна хацелі прымазаць да нас Караткевіча. Хацелі стварыць, як калісьці, Саюз вызвалення Беларусі, а Купалу зрабіць лідарам, калі Купала пасля допытаў разрэзаў сабе жывот. Яны хацелі зрабіць Караткевіча нашым лідарам. Ну, канешне, Геніюш, але Геніюш далёка, таму згадалі пра Караткевіча.

Я сказаў, што не лічу Караткевіча беларускім патрыётам: ён з жонкай размаўляе па-расейску.

Мне сказалі – "вы фанатык".

### "Подвиг народа"

Групе з "Паддашку" было прасцей. То былі мастакі, больш вольныя людзі, больш смелыя. Яны маглі зарабіць партрэтам ці як-небудзь... Як Зянон казаў, Пазняк – я фатограф. Калі мяне звольняць з працы, я пайду, пад касцёл сяду, буду рабіць фотадзымкі бабак, яны мне будуць за гэта яйкі з салам даваць. Я пражыву. А навукоўцы – не. Навукоўцы, яны ж, калі іх выганялі з працы – яны ўсё... І пісьменнікі былі вельмі затурканыя. Калі іх перастаюць друкаваць, іх ужо і няма.

Вось мяне выгналі з працы, мяне абсалютна нідзе не друкавалі, на мяне нельга было спасылацца, выкрасленыя былі ўсе спасылкі на мяне.

І нават было ў мяне пару калектыўных прац, у друку. Сааўтар прыходзіць – Міша, можа ты не будзеш крыўдаваць, калі пад адным прозвішчам? Кажуць, што можа калі ты вернешся, гадоў мо праз дваццаць. Я кажу – ну друкуй, друкуй. Няма, цябе ўжо няма! Нідзе няма ніякай спасылкі! Ужо глядзяць, як друкуюць артыкулы, ёсць спіс, каго няма. Чарняўскі – ужо выкрэсліваюць, на яго спасылак няма, ні ў падрадкоўніку, нідзе. Ты не жывы, ты мёртвы.

### Як выжыць? Пайшлі на фізічныя работы

Я хацеў уладкавацца вартаўніком у Батанічны сад. Сказалі, сад Акадэміі навук – нізашто.

Мяне ўладкавалі знаёмыя мастакі ў вытворча-мастацкі камбінат, дзе рабілі ўсю наглядную агітацыю для Мінска і Мінскай вобласці. Партрэты Брэжнева, стаханаўцаў, даярак...

Мы збівалі шчыты, абшывалі фанерай і грунтавалі, а мастакі малявалі камуністаў з чырвонымі кніжачкамі.

А мы потым іх развозілі і ставілі... Самая вялікая работа была на Круглай плошчы: лозунг "Подвиг народа бессмертен". Гэта яшчэ з майго часу. Гэта я рабіў яшчэ.

Я там з гэтых літараў зарабіў за пяць дзён столькі, колькі я зарабляў у інстытуце за месяц. Аддаваў жонцы грошы і астатнія дні быў вольны.

Я займаўся яшчэ археалогіяй. Работнікі ЦК, якія былі нацыянал-камуністамі, казалі – праз год мы цябе вернем. Цяпер не можам, бо гэта рашэнне Масквы...

### Караткевіч

– Калі я быў яшчэ ў Пількаўшчыне, я збіраў кніжкі. Гэта яшчэ былі танныя кніжкі, я іх купляў многа. Паэзію купляў, бо спрабаваў вершы




Міхась Чарняўскі.

пісаць, але яны ў мяне не атрымоўваліся, напэўна, з-за адсутнасці таленту... І вось сярод гэтага мора зборнічкаў тоненькіх, такіх як "Вясне насустрач", "Глыбокае ворыва", "Высокая хваля", "Песня трактарыста", раптам знаходжу кніжачку ў кардоннай вокладцы "Матчына душа". Дзікая назва, несавецкая назва, што гэта такое?

Адкрываю і чытаю першы верш. Чакаю – абавязкова пра партыю ці хоць пра ўдарніка ці даярку. І раптам: "У векавечнай Бацькаўшчыне клёны нячутна пачынаюць аблятаць". Я не веру сваім вачам. Пагартаў.

Ні аднаго трактарыста, ні адной даяркі. І я ўпадабаў гэтага аўтара.

Уладзімір Караткевіч прозвішча.

А пасля другі зборнічак, ужо не ў цвёрдай вокладцы, а ўжо ў мякчэйшай, малюнак сацыялістычны на вокладцы – ударнік ці ўдарніца, нешта такое. Але таксама абсалютна такая ж самая паэзія. Я прыязджаю ў Мінск, знаёмлюся з Арсенам Лісам, з Прашковічам, Шушкевічам, я расказваю, а яны кажуць – гэта наш знаёмы. Ён абяцаў хутка прыехаць. Гэта значыць у 62-м годзе, а можа ў 61-м. Ён яшчэ не быў у Мінску, можа яшчэ нават не быў у Беларусі, а працаваў пад Кіевам. Ну вось я прыходжу, мы ідзём у пакой, яны мяне знаёмяць – вось Валодзя.

У яго вельмі цікавыя вочы.

У яго ўвесь твар быў такі... Быццам бы скульптар рабіў трошкі п'янаваты. Не класічны твар. Вельмі арыгінальны твар.

У яго нават вочы рознакаляровыя былі. Вельмі ўважлівыя вочы. Я не магу нават сказаць, якія ў яго былі вочы. Яны ўсё гаварылі...

Ён прыязджаў, мы сустракаліся, потым мяне ў войска забралі на два гады з аспірантуры. Прыязджала камісія з Масквы, мяне выцягвалі ў вялікіх армейскіх трусах, голага па пояс, замазанага мазутай – мазалі зеніткі, якія адпраўлялі ў В'етнам, а амерыканцы іх бамбілі, іх трэба было чысціць і мазаць – на мяне паказвалі: во наш акадэмік...

### Жонак беларусізавалі

У нашым акадэмічным асяроддзі не было дзяўчат беларускамоўных.

Мы сабраліся аднойчы, хлопцаў з пяць, я, Арсень Ліс, можа, Гніламёдаў – вось што цяпер акадэмік – ён у нашым інтэрнаце жыў, калі моцна выпіваў, пачынаў вельмі хораша размаўляць на замежных мовах. Ён іх не разумеў абсалютна, ён іх імітаваў – геніяльная была імітацыя – і казаў, што не проста балбатаў, а выказваў нейкія думкі.

Дык вось, Арсень Ліс кажа: у мяне ёсць аднакласніца на беларускай філалогіі, у іх цэлы пакой філалагінь з беларускага аддзялення. Мы кажам – нарэшце хоць з дзеўкамі пабудзем родны па духу, мове. І мы заходзім.

Прыгожыя дзеўкі. Канспекты раскладзеныя. Падымаюцца: "А, ребята, как хорошо, что вы пришли..."

Для нас гэта было ўдарам. Як у боксе. Пасядзелі хвілін 20, і пайшлі.

Усе жаніліся з расейскамоўнымі. Арсень – з дачкой палкоўніка. Я – з дачкой партыйнага работніка. Але мы бачылі, што яны на вачах беларусізуюцца.

Вось мая Света ведала абсалютна ўсе мае перакананні – палітычныя, нацыянальныя, і я ўбачыў, што яна падзяляе іх. Спачатку яна гаварыла па-беларуску толькі са мной, пры чужых у яе комплекс быў, саромелася, што дрэнна гаворыць. Гэта доўгі час працягвалася. Можа, гадоў 20.

**Запісалі Паўліна Купрысь, Рыгор Шкурынаў.**

**Працяг будзе.**

**("Наша Ніва").**

---

### КАЛЯНДАР

**26 ліпеня.** 95 гадоў з дня нараджэння Івана Грамовіча (1918 – 1986), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Скончыў Мінскі педінстытут. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Выдаў зборнікі "Апавяданні", "Шырокія азёры", "У лесе на паляна", "Рына-Марына", кнігі для дзяцей "Першага верасня", "Сонца скрозь воблакі", іншыя.

***

**27 ліпеня.** 115 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Сямашкі (1898 – 1965), беларускага пісьменніка.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Алены Гайдуліс (Луцэнкі-Гайдуліс) (1943), беларускай актрысы, заслужанай артысткі Беларусі.

***

**28 ліпеня.** 100 гадоў з дня нараджэння Барыса Кудраўцава (1913–1983), беларускага і рускага акцёра, заслужанага артыста Беларусі. У 1937–1960 гадах працаваў у тэатры імя Янкі Купалы. Зняўся ў фільмах "Шчасце трэба берагчы", "Дзяўчынка шукае бацьку", "Бабскае царства", "Дырэктар", "Разлом".

***

Дзень работнікаў гандлю (апошняя нядзеля ліпеня).

***

**30 ліпеня.** Міжнародны дзень сяброўства (ААН).

***

**1 жніўня.** 90 гадоў з дня нараджэння Міколы (Мікалая Міхайлавіча) Грынчыка (1923–1999), беларускага літаратуразнаўца і крытыка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. Даследаваў праблемы народнасці літаратуры, узаемаадносін літаратуры і фальклору, асновы беларускага вершаскладання.

***

**900 гадоў** з дня нараджэння Лаўрэнція Тураўскага (каля 1113 ці 1130-я гг. – пасля 1190), беларускага святога, пустэльніка, епіскапа.

***

**490 гадоў** з часу выдання паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" (Кракаў; 1523).

***

**410 гадоў** з часу выгравіравання беларускім гравёрам Тамашам Макоўскім першай дакладнай карты Вялікага Княства Літоўскага (каля 1603; захавалася 2-е выданне, 1613, Амстэрдам, друкарня Блаў).

***

**250 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Чахоўскага (1763 – пасля 1825), Мінскага губернскага архітэктара, аўтара праектаў пабудоў у Чэрвені, Мазыры, Вілейцы, Бабруйску, Слуцку, Пінску, Барысаве.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ЖЫЦЦЁВАЯ ГІСТОРЫЯ

# Сустрэліся праз 60 гадоў

**Праз 60 гадоў я сустрэўся з чалавекам, пра якога мне нагадала "Рэгіянальная газета".**

У пачатку 2013 года я прачытаў у "Рэгіянальнай газеце", што старажыл Ілы **Аляксандр Пятровіч Шушкевіч** у 1937 годзе вучыўся слясарнай справе ў Вілейцы ў **Андрэя Дамалеўскага**. Я ж падлеткам сябраваў з Андрэем Дамалеўскім, мы нават пачыналі разам працаваць. Можа, тут пішуць пра бацьку Андрэя, таксама Андрэя?

Захацелася знайсці свайго аднагодку, распытацца, як склалася яго жыццё.

Пачаў шукаць Шушкевіча, але на зіму ён з'ехаў да сына. Стаў шукаць Андрэя, але безвынікова. Нарэшце сабраўся, паехаў у Вілейку. Пошукі прывялі ў кабінет намесніка начальніка міліцыі падпалкоўніка **Андрэя Дударчыка**. Ад яго я і даведаўся, што Андрэй Дамалеўскі памёр два гады таму. Вось наколькі я спазніўся!

Засмучаны я паехаў дадому ў Маладзечна і вырашыў зноў набраць нумар тэлефона Шушкевіча. І вось радасць – адказвае мне Аляксандр Пятровіч. Ён вярнуўся ад сына і жыве адзін у сваім доме ў Ілы.

З рэдактарам "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандрам Манцэвічам** вырашылі з'ездзіць да цікавага чалавека разам.

Аляксандр Шушкевіч нарадзіўся 30 жніўня 1922 года. Зямлі ў бацькоў было мала, гектары са тры. Але яго матка была краўчыхай, і яна пастаянна вучыла маладых дзяўчат сваёй прафесіі:

– Часам у мамы было да шасці вучаніц, – гаворыць Аляксандр Пятровіч.

Аляксандр закончыў сем класаў ільянскай школы. Пасля бацька паслаў яго вучыцца слясарнай справе ў Вілейку. Жыў і вучыўся Аляксандр у майстра Андрэя Дамалеўскага.

– Майстэрня месцілася якраз насупраць дома фатографа Бермана. Апошні час там у падвале быў агародніны магазінчык (рэдакцыя: на скрыжаванні сённяшніх вуліц Ігната Ходзькі і Савецкай). У гэты самы час у майстра і нарадзіўся сын, якога таксама назвалі Андрэем.

Калі 17 верасня Чырвоная Армія увайшла ў Вілейку, Шушкевіч кінуў вучобу і пайшоў дамоў.

З таго часу Дамалеўскаму запомнілася карцінка, як праз Ілью на падводах вязуць параненых польскіх памежнікаў.

Дома дапамагаў бацьку па гаспадарцы, падпрацоўваў. У мястэчку ўсе чым-небудзь займаліся. Незлічона было гандлёвых лавак, шаўцоў, краўцоў, шорнікаў, цырульнікаў, бондараў, сталяроў. Толькі кавалёў у Ілы было 12!

– Цэлая рамесная і гандлёвая вуліца была заселеная яўрэямі-саматужнікамі, – гаворыць Аляксандр Пятровіч. – На 70 працэнтаў Ілья была яўрэйскім мястэчкам.

Сёння ў Ілы няма ніводнага яўрэя.

Яшчэ з таго часу Шушкевіч запомніў, што яго сваяка, поўнага цёзку, Аляксандра Пятровіча Шушкевіча, афіцэра польскай арміі, у 1939-м годзе арыштавалі. Пад канвоем яго вялі паблізу свайго дома. Родныя плакалі. Афіцэр Аляксандр Шушкевіч больш сюды ніколі не вярнуўся.

– Ён прапаў, мабыць, у Катыні, – патлумачыў нам суразмоўца.

Аляксандр Шушкевіч не ваяваў па сваёй хваробе.

Аб тым часе ўспамінаць цяжка. Амаль усіх ільянскіх яўрэяў расстралялі. На месцы трагедыі сёння стаіць невялікі помнік.

Беларусам, якія засталіся ў Ілы, цяжка было зрабіць свой выбар. Многія да 1939 года чакалі ўз'яднання і прыходу Савецкай улады, якая прынясе "шчаслівае жыццё". Не ўсе чаканні спраўдзіліся. З прыходам немцаў некаторыя сем'і падзяліліся.

– У адной сям'і, – расказвае Аляксандр Пятровіч, называючы прозвішча гэтай сям'і, – адзін з братоў пайшоў у паліцаі, другі – у партызаны.

Пасля вайны Аляксандр Пятровіч працаваў бухгалтарам у Ільянскім участку лясгаса. Там і пазнаёміўся з будучай жонкай. Ажаніўшыся, пабудавалі сабе дом.

У красавіку 1953 перайшоў працаваць майстрам смалакурнага завода Старая Гута маладзечанскага хімлясгаса. У калектыве з 20 чалавек былі нарыхтоўшчыкі смалы, возчыкі, гоншчыкі, бондары.

За месяц упраўляліся зрабіць пяць гонак смалы. Толькі для адной гонкі трэба было загрузіць у спецыяльную печ 20 кубаметраў карчоў. Таму за цёплую пару года трэба было нарыхтаваць на год больш за тысячу кубаметраў. Ды яшчэ столькі ж нарыхтаваць дроў для катла і іншых патрэб. Збіралі жывіцу з хвой.

У той час я ўжо працаваў у хімлясгасе слесарам, і мяне паставілі замяніць качагара на газагенератарную машыну ЗІС-21, якая замест бензіну працавала на бярозавых цурках. У канцы жніўня мы паехалі ў Старую Гуту за смалой.

Машына часта буксавала, мне даводзілася яе заводзіць ручкай. Чуць даехалі да смалзавода і там заначавалі. Пасля амаль бяссоннай ночы – усё думаў, чаму машына глухне, – раненька пайшоў шукаць прычыну няспраўнасці. Калі я знайшоў прычыну і завёў машыну, прыбег заспаны шафёр з сенам у валасах. Каля васьмі гадзін прыйшоў майстар смалзавода і запрасіў нас снедаць.

І вось мы зноў з ім сустрэліся праз 60 гадоў!

Жонка Аляксандра Пятровіча памерла 13 гадоў таму назад. Летась пасля інсульту не стала дачкі, да якой ён апошні час ездзіў кожную зіму. Сын жыве ў Маладзечне. У яго і прабавіў апошнюю зіму.

Нам Аляксандр Пятровіч сказаў, што больш не кранецца са свайго дома.

А Андрэй Дамалеўскі-старэйшы усё ж няблага вучыў Шушкевіча слясарнай справе! Аляксандр Пятровіч сам зрабіў трактар з рухавіком ад інваліднай каляскі, дрэваапрацоўчы і такарны станкі. Сам змайстраваў восем вулляў і трымае пчол, абкошвае траву. У цяпліцы ўсё дагледжана, ні травінкі пустазелля.

У чыстым доме ніхто не падумае, што тут даўно няма жаночай рукі.

Не абмінуў Аляксандра Пятровіча і мастацкі густ. У маладосці пачаў маляваць карціны:

– Была такая мода, – кажа пенсіянер. – І я маляваў.

Дзве карціны, адна з якіх датаваная 1953 годам, вісяць у хаце. Сам зрабіў чучала дзіка. Разам са зваршчыкам зрабіў вароты і брамку са спружынным механізмам-засаўкай.

Яму цяжка насіць прадукты, ды і хваробы чапляюцца. Дапамагае сацыяльны работнік. Але і сам Аляксандр Пятровіч часам бярэ ў базарны дзень ровар і разам са сваім двухколавым сябрам на пару ідзе туды, дзе віруе жыццё. Ідзе ў цэнтр мястэчка, у якім ён правёў усё сваё жыццё, калі не лічыць тых двух гадоў, што вучыўся ў Вілейцы слясарнай справе ў майстра Андрэя Дамалеўскага у майстэрні насупраць дома фатографа Бермана.

30 жніўня Аляксандру Пятровічу споўніцца 91 год.

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ,**
**Маладзечна.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Аляксандр Шушкевіч (злева) і аўтар Леў Чырвонцаў каля пчальніка.


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Трактар, які сабраў сваімі рукамі.

■ ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА.

# “Маладзечна-2013” выйграла ў “Лівадзіі” з лікам 3:0


Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Цяпер “Маладзечна-2013” займае дзявятае месца ў турнірнай табліцы.

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 21 ліпеня, прайшоў матч дванаццатага тура другой лігі па футболе. У госці да ФСК “Маладзечна-2013” прыехала дзяржынская “Лівадзія”.**

Сёлета фанацкаму руху з Маладзечна споўнілася 15 гадоў. Фан-сектар на працягу ўсёй гульні падтрымліваў сваю каманду. Нават фанаты з Дзяржынска прысвяцілі віншавальную крычалку: “З днём нараджэння, Маладзечна”.

Першы небяспечны момант у гульні стварылі госці, ужо на пятай хвіліне мяч патрапіў у перакладзіну. Адказ маладзечанцаў не прымусіў сябе доўга чакаць – на шаснаццатай хвіліне **Дзяніс Жыліч** адкрывае лік.

На 24 хвіліне мяч мог апынуцца ў варотах маладзечанскай каманды. Але **Павел Суман** у апошні момант выбівае мяч і ратуе вароты.

Другі мяч у вароты гасцей заляцеў на 38-й хвіліне. Дзяніс Жыліч, “уклаўшы” варатара на газон, адправіў мяч у пустыя вароты.

Першы тайм прайшоў са значнай перавагай ФСК “Маладзечна-2013”.

У другім тайме маладзечанская каманда не збавіла абароты. І ўжо на 53 хвіліне **Сяргей Тарчыла** зрабіў лік 3:0.

Гульня ў другім тайме пераважна праходзіла ў сярэдзіне поля. Бліжэй да канца ў камандаў узніклі вострыя моманты каля сваіх варот. Але больш галоў гледачы так і не ўбачылі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Раман ХАМЕНКА.**

**Турнірная табліца:**

| | Каманды | Г | В | Н | П | П | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гомельчыгунтранс | 9 | 8 | 1 | 0 | 24-5 | 25 |
| 2 | Нёман (Масты) | 11 | 6 | 5 | 0 | 23-9 | 23 |
| 3 | Жлобін | 11 | 7 | 1 | 3 | 24-18 | 22 |
| 4 | Зорка-БДУ (Мінск) | 11 | 6 | 4 | 1 | 18-7 | 22 |
| 5 | Кобрын | 11 | 5 | 1 | 5 | 21-25 | 16 |
| 6 | Баранавічы | 10 | 4 | 3 | 3 | 18-16 | 15 |
| 7 | Лівадзія (Дзяржынск) | 10 | 3 | 4 | 3 | 13-12 | 13 |
| 8 | Орша | 12 | 3 | 3 | 6 | 19-16 | 13 |
| **9** | **Маладзечна-2013** | **11** | **3** | **2** | **6** | **16-24** | **11** |
| 10 | Партызан-МТЗ (Мінск) | 11 | 2 | 4 | 5 | 10-18 | 10 |
| 11 | АЛФ-2007 (Мінск) | 11 | 2 | 4 | 5 | 10-17 | 10 |
| 12 | Асіповічы | 11 | 2 | 4 | 5 | 8-14 | 10 |
| 13 | Віцебск-2 | 11 | 0 | 2 | 9 | 6-29 | 2 |

■ НАВІНЫ

## “Смаргонь” мінімальна прайграла

**СМАРГОНЬ.** У 14-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 20 ліпеня футбольны клуб “Смаргонь” гуляў на выездзе супраць каманды “Мінск-2”. Смаргонцы прайгралі гаспадарам з лікам 0:1. Гол прапусцілі на 31-й хвіліне.

Вось як пракаментаваў матч неафіцыйнаму сайту ФК “Смаргонь” галоўны трэнер каманды **Павел Бацюта**:

– У першым тайме ў нас былі вялікія праблемы ў апорнай зоне: мы прайгравалі падборы і адзінаборствы, акрамя таго было вельмі шмат браку ў перадачах. І таму праз нашу апорную зону праходзілі сапернікі і рабілі перадачы за спіны абаронцаў.

Гульцы лініі абароны таксама згулялі ў першым тайме не так, як трэба.

У перапынку адбылася размова, і ў другім тайме сітуацыя палепшылася – з’явіліся галявыя моманты. Мяч проста не ішоў у вароты, хоць былі моманты ў **Сяргея Крата**, **Ягора Сямёнава** і іншых гульцоў.

## Вілія” дома гуляе ўнічыю

**ВІЛЕЙКА.** Дома 20 ліпеня каманда “Вілія” прымала “Аграсэрвіс” са Слуцка. Сустрэча завяршылася ўнічыю 1:1. У турнірнай табліцы “Вілія” займае з васьмю ачкамі 11-е месца з 14-ці.

## “Фламетр” выйграў у прынцыповым паядынку

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 21 ліпеня, адбыліся гульні чацвертага тура чэмпіянату раёна па футболе.

“Любань” прайграла камандзе “Страла” з Вілейкі 2:4. “Чурлёны” дома абыгралі “Шылавічы” 7:1. Сустрэліся адныя з лідараў – каманды “Фламетр” і “Буддэталі”. “Буддэталі” маглі першымі адкрыць лік, але іх гулец не рэалізаваў пенальці. А за некалькі хвілін да заканчэння матча і нічыю ўпусцілі, прапусціўшы гол. Такім чынам, “Фламетр” з лікам 1:0 абыграў чэмпіёна раёна апошніх двух гадоў. Пра ўсё гэта паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футболу **Ігар Шабан**.

## Маладзечанскія клубы буйна перамагаюць

**МАЛАДЗЕЧНА.** У адзінаццатым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманды з Маладзечаншчыны атрымалі буйныя перамогі. На дамашнім стадыёне 20 ліпеня “Забудова-2007” з Чысці абыграла каманду “Лівадзія-Юні” (Дзяржынскі раён) 5:0. Хет-трыкам адзначыўся **Мікіта Мятліцкі**. Гэта перамога дазволіла чысцінцам пакінуць апошні радок турнірнай табліцы.

Назаўтра, 21 ліпеня, “Маладзечна-ДЮСШ-4” абыграла футбольны клуб “Смалявічы” з лікам 4:0.

## Каманда Астраўца паедзе на “Скураны мяч”

**АСТРАВЕЦ.** 17 ліпеня адбыліся занальныя абласныя спаборніцтвы “Скураны мяч” сярод юнакоў 1999-2000 г.н. Удзельнічалі чатыры каманды – з Астраўца, Ашмянаў, Воранава, Смаргоні,

Першае месца заняла каманда Астраўца. Яны атрымала перамогі ва ўсіх трох матчах, паведаміў загадчык фізкультурна-аздараўленчага цэнтра па месцы жыхарства Астраўца **Вадзім Лебядзевіч.**

На другім месцы – каманда з Воранава, на трэцім – смаргонцы.

Каманда Астраўца як пераможца турніру будзе ўдзельнічаць у фінальных абласных спаборніцтвах “Скураны мяч”. Пройдуць яны ў Шчучыне з 30 ліпеня па 1 жніўня.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ВОЛЬНЫ ЧАС

## Спаборніцтвы ў цэнтры “Зубраня”

**МЯДЗЕЛ. У рамках свята “Нарачанскі вянок” 21 ліпеня ў НДЦ “Зубраня” адбыліся спартыўныя спаборніцтвы па ўзняцці гіры, дартсе. Праводзіліся сеансы адначасовай гульні па шашках і шахматах.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У атацы — каманда “Зубраня”.

Адбылася таварыская сустрэча па футболе паміж камандамі Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра і НДЦ “Зубраня”. Першы тайм завяршыўся ўнічыю 2:2, аднак у другім мядзяльчане сталі дзейнічаць больш актыўна і выйгралі матч з лікам 6:3.

У валейбольным матчы каманда “Нептун” (Мядзел) абыграла каманду Занарачы. Лік па партыях 3:0, паведаміў дырэктар Мядзельскага ФАЦ **Міхаіл Чаркасаў**.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ВАЛЕЙБОЛ

## Турнір па пляжным валейболе прысвячаўся памяці Іосіфа Гашкевіча

**АСТРАВЕЦ.** У суботу, 20 ліпеня, на беразе Янаўскага вадасховішча ў Астравецкім раёне адбыўся турнір па пляжным валейболе памяці **Іосіфа Гашкевіча.** У ім удзельнічалі дзесяць камандаў: сем з Астравецкага раёна і тры з Ашмянскага.

Мацнейшай аказалася каманда “Будаўнік” з Ашмянаў.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ДЛЯ ТУРЫСТАЎ

## У Інтэрнэце з’явіўся турыстычны партал Нарачанскага краю

**МЯДЗЕЛ. Запрацаваў турыстычны партал Нарачанскага краю. На сайце myadel-tourism.by можна знайсці разнастайную інфармацыю аб турыстычных магчымасцях Мядзельшчыны.**

На партале сабраныя звесткі пра Мядзельскі раён, аграсядзібы, здраўніцы. Можна пазнаёміцца з маршрутамі веласіпедных, водных, пешых і конных паходаў, размяшчэннем турыстычных стаянак, інфармацыяй пра музеі. Мажліва даведацца, дзе спыніцца на начлег і паабедаць, заправіць аўтамабіль, купіць лекі і атрымаць медыцынскую дапамогу, памяняць валюту.

На сайце маюцца інтэрактыўныя карты здраўніц, турыстычных стаянак, аграсядзіб.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# Вяскоўцы знаёміліся з "Зубранём" і дэманстравалі таленты

**МЯДЗЕЛ. Упершыню на Мядзельшчыне адбылося свята сяброў "Нарачанскі вянок". Прымаў яго 21 ліпеня Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Зубраня".**

Сюды прыехалі дэлегацыі сельскіх Саветаў з усяго раёна, завіталі адпачывальнікі са здраўніц.

Распачалося свята прывітальнымі словамі старшыні райвыканкама **Іллі Шацько** і дырэктара цэнтра "Зубраня" **Надзеі Ануфрыевай**.

Госці знаёміліся з інфраструктурай цэнтра, праходзілі разнастайныя спартыўныя спаборніцтвы. Багата забаў было для дзяцей: маглі яны паскакаць на батуце і надзіманым замку, праверыць трапнасць у электронным ціры, паездзіць на электрамабілях – і ўсё гэта бясплатна.

Свае падворкі прадставілі сельскія Саветы Мядзельшчыны. Кожнаму адвялі па альтанцы. Упрыгожвалі іх старадаўнімі рэчамі (зайшоў – і быццам апынуўся ў беларускай хатцы), вырабамі народных майстроў. Побач умельцы дэманстравалі, як гэтыя прыгожыя вырабы ствараюцца. Тут жа спявалі самадзейныя артысты. Можна было прадэгуставаць вясковыя стравы, прысмакі, якія раней пяклі на вяселлі…

Госці не праміналі пачаставацца. Сярод іх былі і расіяне, якія адпачываюць у нарачанскіх здраўніцах.

– Здзівіў маштаб свята, тут столькі ўсяго рознага, – кажа Ірына з Санкт-Пецярбурга.

– А што найбольш спадабалася?

– Пляценне, карціны, якія бабулі самі робяць, сувеніры. Ды і стравы смачныя. Проста супер! Буду ўсім расказваць.

– Вочы адразу разбягаюцца: прыгажосць такая, – дзеліцца Наталля з Цюменскай вобласці. – Усё сапраўднае: адчуваецца, што зроблена з любоўю, з ахвотай.

Вясковыя пачастункі спадабаліся. А хто і рэцэптам прасіў падзяліцца: давялося пачуць, як жанчына старанна дапытвала рэцэпт поліўкі.

А на кастровай пляцоўцы ля возера выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці сельсаветаў. На заканчэнне прызамі і Дыпломамі адзначылі лепшых удзельнікаў свята і спартсменаў.

Свята "Нарачанскі вянок" стане традыцыйным – наступны раз яго прыме санаторый "Прыазёрны".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


ота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Жанчыны цікавяцца рэцэптамі беларускіх страў.


ота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Выступаюць самадзейныя артысты.

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 6 | 7 | |
| | | | | | | 3 | | 1 |
| | | | 8 | 4 | | 2 | | |
| | 8 | | | | 2 | | 3 | |
| 2 | | | 9 | | 5 | | | 6 |
| | 3 | | 7 | | | | 4 | |
| | | 8 | | 1 | 7 | | | |
| 1 | | 5 | | | | | | |
| | 2 | 4 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі "**Універсітэт монстраў**" (США, 2013, да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 ліпеня – у 19.00
27 ліпеня – у 14.00, 19.00
28 ліпеня – у 13.00, 21.00
29 ліпеня – у 19.00
30 ліпеня – у 21.00
31 ліпеня – у 19.00
1 жніўня – у 19.00
Цана білета – 22 000-25 000 рублёў

Экшн "**Чалавек са сталі**" 3D (США, 2013, да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 ліпеня – у 16.00
31 ліпеня – у 16.00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастычны экшн "**Ціхаакіянскі рубеж**" 3D (США, 2013, 2 серыі, да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 ліпеня – у 16.00. 21.00
27 ліпеня – у 21.00
28 ліпеня – у 15.00, 18.00
29 ліпеня – у 21.00
30 ліпеня – у 18.00
31 ліпеня – у 21.00
1 жніўня – у 16.00, 21.00
Цана білета – 40 000-45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы ў Краіне Цудаў**" (Кітай, 2012)
26 ліпеня – у 17.30
27, 28 ліпеня – у 15.30
30 ліпеня-1 жніўня – у 17.30
Цана білета – 15 000 рублёў

Трылер "**Канец свету**" (Іспанія, 2012)
26 ліпеня – у 19.30, 21.30
27, 28 ліпеня – у 17.30, 19.30, 21.30
29 ліпеня – у 21.30
30 ліпеня-1 жніўня – у 19.30, 21.30
Цана білета – 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

ГАРАСКОП (26 ЛІПЕНЯ-1 ЖНІЎНЯ)


**Авен.** Абставіны складаюцца на вашу карысць. Ад слоў пераходзьце да справы. Да вас будуць прыслухоўвацца, дапамогуць рэалізаваць планы.


**Цялец.** Старайцеся весці сябе больш мякка і далікатна. Не прымайце паспешлівых рашэнняў, асабліва якія тычацца сямейнага жыцця.


**Блізняты.** Сачыце за тым, каб ежа на вашым стале заўсёды была свежая. Халодная і цяжкая яда можа выклікаць недамаганні.


**Рак.** Будзьце асцярожныя з новай інфармацыяй, не прымайце хуткіх рашэнняў. Праводзьце час у коле сваякоў ва ўтульнай дамашняй абстаноўцы, гэта пойдзе на карысць.


**Леў.** Пастарайцеся пазбегчы спрэчак з каханым чалавекам. Гэта пагражае хуткім разрывам адносінаў. І сур'ёзна аднясіцеся да дамашніх спраў, яны не такія простыя, як здаецца на першы погляд.


**Дзева.** Трымайце сябе ў руках, калі пачуеце крытыку ў свой адрас. Канструктыўную яе частку прыміце да ведама, астатняе вас не тычыцца.


**Шалі.** Калі вамі завалодае лянота, то знікне энтузіязм і фізічная энергія пойдзе на спад. Ключ да поспеху ў пераадоленні перашкод і раздражнення. А яшчэ, калі не былі ў адпачынку, то ідзіце. Лянота – гэта паказчык таго, што вы стаміліся.


**Скарпіён.** Вас чакае вельмі шмат спраў – і на працы, і дома. Аднак памятайце пра меру, пастарайцеся не перапаммляцца, а яшчэ гасіце ўспышкі гневу. Займіцеся спортам, паляпшайце сваю фізічную форму.


**Стралец.** На шмат каго з вас крайне негатыўна дзейнічае руціна, аднастайнасць уганяе ў сум. Не рызыкуйце, калі ёсць жаданне паставіць на карту ўсё, што вам дорага.


**Казярог.** Цяпер вы некалькі абмежаваныя ў сродках, але гэта не азначае, што вам не трэба радаваць сябе. Абавязкова набудзьце што-небудзь прыемнае, яркае, смачнае, жаданае.


**Вадалей.** Актыўныя дзеянні ў прафесійнай сферы дадуць станоўчыя вынікі.


**Рыбы.** У вас узнікне жаданне прыцягнуць увагу навакольных да сябе, і, гэта цалкам магчыма. Вашы дзеянні змогуць аказаць важны ўплыў на будучыню.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

**Камент-эксперт** erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР’Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +20 | | +15 / +22 | | +15 / +24 | | +14 / +22 | |
| | 739 | ↙ 4 | 741 | ↘ 1 | 742 | ← 4 | 742 | ← 6 |
| Вільня | +15 / +19 | | +15 / +21 | | +14 / +23 | | +15 / +23 | |
| | 748 | ↙ 3 | 749 | → 0 | 751 | ↖ 2 | 750 | ↖ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.17
Захад 21.20
Даўжыня дня 16.03

Усход 22.51
Захад 11.39
Квадра 3

**27 ліпеня, субота**

Віцебск +15 +22 746 ↘ 3
Мінск +15 +22 741 ↘ 1
Магілёў +14 +21 744 ↘ 5
Гродна +16 +22 749 → 1
Гомель +16 +23 747 ↓ 5
Брэст +16 +23 748 ↘ 1

## ПРЫКМЕТЫ

- Ілля, Ільля (2 жніўня)— біблейскі прарок, вобраз якога зліваўся са славянскім язычніцкім богам грому і маланкі Перуном. Ілля ў даўніх вераваннях – распарадчык дажджоў. “Як быў Пятрок – апаў лісток, а прыйшоў Ілля – апалі два”.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Улетку дом у аграгарадку Вязынь ператварыўся ў дачу. І не простую, а сацыяльную, разлічаную на адпачынак пенсіянераў і інвалідаў. Чытайце пра гэта ў наступным нумары газеты.**



## ГЭТА ЦІКАВА!

## Як эфектыўна весці гутарку

Падчас зносін ваша гаворка павінна несці афарбоўка ветлівасці і павагі да суразмоўцы. Тон быць спакойным, зацікаўленым, даверным. Нецэнзурныя выразы, слэнг, жаргонныя слоўцы смецяць мову. Старайцеся не ўжываць іх.

***

Падбірайце моцныя словы, старайцеся падкрэсліваць думку меншай колькасцю слоў.

***

Паляпшайце слоўнікавы запас (выпісвайце, вычытвайце, запамінайце).

***

Працуйце над сваім голасам, каб ён быў моцным, выразным, зразумелым.

***

Больш выступайце, аваладвайце якасцямі ўпэўненага аратара.

***

Выказвайце свае пачуцці прама.

***

Перадавайце моцныя думкі.

***

Лепш увогуле маўчаць, чым пазяхаць і весці нейкую размову.



■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ І МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым бы вы хацелі заняцца на пенсіі?

**Аляксандр Быкаў, журналіст:**

– Улічваючы тое, што я прафесійны паэт, больш часу застанецца на стасункі з сябрамі-паэтамі, на творчыя сустрэчы і паездкі. І можна пастарацца напісаць нешта вартае.

**Наталля Музычэнка, супрацоўніца музея:**

– Калі буду на пенсіі, хацелася б мець домік у вёсцы. Каб вырошчваць кветкі і жыўнасць якую завесці, каб быць бліжэй да прыроды. Каб унукі прыязджалі адпачываць на свежым паветры. Тады будзе больш часу кніжкі чытаць, вязаць.

**Тамара Шаўлюк, супрацоўніца банка:**

– Хацелася б паехаць у вёску, дзе нарадзілася. Заняцца гаспадаркай, гадаваць качак, гусей – люблю свойскіх птушак.

**Святлана Петрачэнка, навучэнка:**

– Няхай бы дзеці ў горадзе жылі, а я дзе-небудзь на лецішчы разам з мужам адпачывала. Аднак агародам займацца дакладна не хацела б.

**Дар’я Грынкевіч, маладая маці:**

– Не ведаю зусім, ялшчэ дзяцей трэба выгадаваць. Але каб у мяне было шмат вольнага часу, то я адпачывала б. Магчыма, адправілася б вандраваць.

**Алеся Станкевіч, студэнтка:**

– Сядзела б дома разам з унукамі і сачыла б за сваім агародам.

**Сяргей Жаркевіч, студэнт:**

– На зароблены грошы я набыў бы яхту і вандраваў на ёй.

**Падрыхтавалі Алесь ВЫСОЦКІ, Вольга ЮРКЕВІЧ і Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 30 (952) 26.07.2013.
Друкарня ТДА “Знамение”, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 660. Падпісана ў друк у 10.00 25.07.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ “Банк БелВЭБ” аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”, УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.